№ 89 | Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы—2 м. 70 ф., на 1 мес.—90 фэн.

Беларуская Віленская часопіс
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 89 (285). Год III. Вільня, 12 лістапада 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

ВІЛЬНА. З колаў Салдацкай Рады наказаваюць, што на заходзе адзываецца братаньне між непрыяцельскімі арміямі і што Фош скінены (?).

БЭРЛІН. Весткі з Нямеччыны ня прыходзяць. Як чуваць, перагаворы між мернымі соцыял-дэмакратамі і незалежнымі туга йдуць уперад. Мерныя соцыялісты дамагаюцца ўчасьця ў урадзе і буржуйных партый (вольнадумнай, цэнтру і навет нацыянал-лібэралаў) незалежныя соцыялісты катэгарычна дамагаюцца абысьціся бяз буржуазных партый пры ўтварэньні ўраду. Яны апіраюцца на Бэрлінскую Раду салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў, каторай праграма—пераход усякае заканадаўчае, адміністрацыйнае і судовае ўлады ў Раду работнікаў і салдатоў.

БЭРЛІН. 10.XI. Прэзыдыум мернай соцыял-дэмакратычнай партыі (група Шэйдэмана) адхінуў варункі, пры каторых незалежныя соцыялісты гатовы былі ўступіць да ўраду, бо бяз учасьця буржуазных партый немагчыма забасьпэчыць емінных спраў.

ВІЛЬНЯ. «Die Wacht im Osten» быўшы орган ваеннае ўлады і 10-е арміі, а цяпер орган Рады Салдацкіх дэпутатаў, піша сягоньня: „Рада Салдацкіх дэпутатаў ня будзе мяшацца ў нацыянальныя справы краю, але, з другога боку, не дапусьціць гвалту аднэй нацыянальнасьці над другой“.

## Беларускія справы.

У нядзелю 10 лістапада ўвечары, едучы з Нямеччыны ў Менск, заехаліся на часінку ў Вільню члены дэлегацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Бэрлін і Швайцарыю, Я. Лёсік і І. Луцкевіч. Дэлегацыя перадала ў Бэрліне мэморыял аб прызнаньні незалежнасьці Беларускай Рэспублікі нямецкаму соцыялістычнаму ўраду. Нямецкі ўрад вельмі спагадна прыняў абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Рэспублікі.

Да нядзелі будзе агульнае засяданьне Рады Б. Н. Рэспублікі, на каторым дэлегацыя здасьць справаздачу з свае працы.

## Беларускія соцыялісты.

У апошнія дні ў Вільні ідзе гарачая работа. Соцыялісты заварушыліся. У нядзелю 10 лістапада пастаноўлена склікаць агульнае эабраньне прадстаўнікоў соцыялістычных партый па 5-х чалавек ад партыі. У парадку дня стаіць на першым месцы справа ўтварэньня цэнтральнага органу.

Віленская арганізацыя Беларускай Соцыялістычнай Грамады у нядзелю 10 лістапада пастанавіла прыняць учасьце ў утварэньні цэнтральнага краёвага органа дзеля пашырэньня рэвалюцыі і арганізацыі краю. Пры ўтварэньні цэнтральнага органу пастаноўлена прыняць этнографічны прынцып.

У нядзелю ад 5-е гадзіны ўвечары было засяданьне прадстаўнікоў соцыялістычных партый. Ад беларусаў прыняла ўчасьце пакуль што толькі Беларуская Соцыялістычная Грамада. Нараніцы ў панядзелак прыслалі сваіх прадстаўнікоў беларускія соцыялісты народнікі. Беларускія соцыял-рэволюцыянеры і Беларуская Работніцкая соцыял-дэмакратычная група пакуль што ня прыслалі сваіх прадстаўнікоў. Яны яшчэ згаварываюцца ў партыях.

Беларускі мужыцкі саюз даведаваўся аб арганізацыі цэнтральнага краёвага органу, але ён, як арганізацыя дэмакратычная, але не соцыялістычная, ня прымаў учасьця ў засяданьнях. Яму потым будуць запрапанаваны месцы ў цэнтральным органе.

Аб адносінах беларускіх соцыялістаў-фэдэралістаў пакуль што нічога ня чуваць.

## Большэвікі.

У надзелю паміж іншым, назначаны быў агульны соцыялістычны мітынг у Работніцкім Клюбе. Народу сабраліся хмары. Людзі занялі ўсю Варонюю вуліцу. Аднак у клюбе такі мітынг, які меў быць, не адбыўся, бо клюб занялі большэвікі і нікога балей ня пусьцілі. Тыя, каторым ўдалося пралезьці, казалі, што аднак у большэвікоў было рэдка і найбольш падросткі. Людзі-ж, што стаялі на вуліцы, па загаду паліцыі разыйшліся.

Беларусы соцыял-рэвалюцыянеры ў Вільні просяць без адкладу прыбыць таварышаў Лукашэвіча і Хмелеўскага з Пскова.

*Вільня, 12 лістапада 1918.*

Беларусы пераժываюць якісь мамэнт нецярплівага чаканьня. Адусюль чуюцца пытаньні: што, як, калі-ж пачнецца запраўды будова Беларускага гаспадарства (гасударства)? Рэзалюцыі Беларускай Рады ў Вільні 3 лістапада яшчэ павялічаваюць агульную нецярплівасьць. Час ідзе, кожная гадзіна цяпер варта месяца, а дзень года, а тымчасам будова беларускага гасударства яшчэ не пачыналася. Небаспэчнасьць з кожным днём расьце. Прагавітыя злосьнікі з усходу і заходу працягаваюць рукі па нашую душу і цела. Беларусы, чаго нам чакаць? Ці мы такія зломкі, каб не збудавалі свайго гаспадарства бяз чужое падмогі? Ці ў нас ня хопіць сіл парваць тыя зялезьзі, якімі нас спуталі, зламаць усе перашкоды? Грошы няма? Грошы павінны быць. Нас дванаццаць міліёнаў, хай кожны беларус дасьць па рублю, вось і дванаццаць міліёнаў рублёў, па другім яшчэ будзе гэтулькі. Чэска-славацкая Рада абвесьціла пазычку на мільярд карон,—мы пэўны, што Беларускі Народ гэтулькі сама змог-бы пазычыць на будоўлю свайго гаспадарства. Беларусы! мы паказалі, што дух вялікіх крывічоў не замёр яшчэ ў нас. Падчас рэволюцыі даволі было аднае іскры, каб паўсталі вялікія і дужыя беларускія арганізацыі. Ад Беластоку і Бярэсьця да Смаленску і Вільні беларусы падняліся, каб здабыць сабе долю і волю, каб аслабаніць спакутаваную сваю Бацькаўшчыну і ўва ўсіх пранёсься кліч: Няхай жыве Незалежная Беларусь! У гэтым клічы ўсе злучыліся: беларусы на заход ад Беластоку і Бельску і беларусы на ўсход ад Смаленска, паветаў Рослаўльскага і Духаўшчынскага. Тыя, каторых хацелі ўжо дзяліць і хрысьціць палякамі і маскоўцамі паказалі, што яны браты сабе і з няволі чужой вырываюцца. Жывы дух беларускі. А калі жывы беларускі дух, то жыва будзе і Беларусь. Есьць народы (як літвіны і латышы), з каторымі мы хацелі-б будаваць гасударства разам, але калі яны маўчаць, то беларусы павінны збудаваць адны сваю дзяржаву. Важна, каб у нас была сіла, а потым саюзьнікі знойдуцца.

Цяпер час, калі ўсякая бава сьмяротны грэх. Дык да працы, браты! Хай ня будзе ніводнага места, ніводнай вёскі ў Беларусі, дзе-бы не пачалася вялікая, разумная, пільная і рупная беларуская работа. Помніце, што ў гэты час важыцца доля нашага народу, нашае зямлі, змочанай праз тысячы гадоў крывёй і потам беларускага народу, помніце што з магілы на вас глядзяць многія пакаленьні прэдкаў, каторыя збудавалі гэткае гасударства, якім было князьства Полацкае і збудавалі і паднялі на нязвычайную вышыню Вялікае Князьства Літоўска-Беларускае і каторыя гэтак добра ўмелі бараніцца і ад Масквы і ад Польшчы. Усе партыі павінны напяць свае сілы і там, дзе ходзіць аб беларускую работу не павінна быць ніякіх партый, павінна быць адна *беларуская партыя*. Хай цяпер кожны беларускі куток, кожнае места, мястэчка і вёска арганізуецца як беларускае, няхай усюды цікавяцца агульнай палітычнай беларускай работай, няхай беларусы ўсюды маюць на ўвеце сьвядомых пэўных людзей, каторым можна будзе зараз-жа даручыць той ці іншы ўрад (должнасьць), не баючыся, што ён пацягне да Польшчы або да Маскоўшчыны. І пілнавацца ўсім трэба агульных пастаноў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску і Беларускай Рады ў Вільні.

## Пскоуская Беларуская Рада.

Увосень 1917 г. у Дзьвінску, як і ў шмат іншых мясцох летась, выходзіла беларуская газэта. Газэту выдавалі вайсковыя беларускія арганізацыі. Дзьвінская беларуская газэта, як шмат іншых выдаваных хоць і сьвядомымі людзьмі, але новымі ў беларускім руху, малазнаёмымі з беларускай літэратурай і слабаўмеючымі беларускую літэратурную мову, выходзіла ў расейскай і беларускай мове. № гэнае газэты папаў у Пскове старшыні цяперашняй Пскоўскай Беларускай Рады п. Кузьме Церэшчэнцы. П. К. Церэшчэнка, аграном, родам з Смаленскай губ., Рослаўльскага павету. Пачуўшы з газэты аб беларускіх арганізацыях п. К. Церэшчэнка надумаў у Пскове закласьці беларускую арганізацыю. Гэта было зрабіць ня цяжка, бо ў роце, у каторай у той час п. М. Церэшчэнка быў салдатам, былі бязмална адны беларусы. Пагукаўшы адны з аднымі склікалі сабраньне беларусаў. Сабралася чал. 30, а дзеля таго, што сабраньне было ў прыватнай невялікай кватэры, дык усе стаялі. На сабраньне прышоў камэндант места, генэрал Трыкоўскі, магілёвец. Гаварыў генэрал пабеларуску і так расчуліўся, што чуць ня плакаў. Пасьля некалькіх прамоў усіх агарнуў гарачы беларускі патрыотызм. Такі быў настрой, што як сталі гаварыць аб грошах і пачалі зьбіраць ахвяры, то адна дама пацарыла свой срыбны рыдзікюль. На гэтым сабраньні была выбрана Пскоўская Беларуская Рада. Прад-

# Здарэньні ў Нямеччыне.

БЭРЛІН. 8.XI. За апошнія дні у Кіле, Гамбургу і Любэку былі народныя рухі. Пачатак быў зроблены ў Кіле, дзе былі арыштаваны качагары 3-й ваеннай эскадры за нарушэньне дысцыпліны. Былі вялікія маніфэстацыі, пры гэтым войска прымушана было страляць. Забіта 8, ранена 29 чал. Там утварылася работніцкая і салдацкая рада, каторая паддзяржавае парадак. Дэпутацыя матросаў 3-й эскадры прыехала ў Бэрлін, дзе была прынята прадстаўнікамі ўраду і Рэйхстагу.

У Гамбургу спробы рабунку зараз-жа караюцца расстрэлам. Ня гледзячы на клічы да парадку былі дэмонстрацыі і забіўствы. Орган паўстанцаў „Чырвоны знак“ абвяшчае ўсім цывільным, каб не паказавацца на вуліцы.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 9.XI. **Урадова.** Рэйхсканцлер наказавае, што нямецкі імпэратар адрокся ад пасаду. Наступнік пасаду адрокся ад наступніцтва. Будзе ўтворана Рэгенцыйная Рада. Рэйхсканцлер выходзіць у адстаўку і радзіць, каб сацыяліст Эбэрт быў рэйхсканцлерам. Будуць зараз-жа зроблены выбары ў нацыянальнае сабраньне, каторае і азначыць будучую форму праўленьня Нямеччыны.

БРАУНШВЭЙГ. 8.XI. Гэргоц браўншвэйгскі, зяць нямецкага імпэратара адрокся за сябе і сваіх патомкаў ад пасаду.

БЭРЛІН. 8.XI. Сябры большасьці Рэйхстагу дамагаюцца ўвядзеньня ў Нямеччыне патайнога, роўнага, простага выбарнага права і для жонак (кабет). Права быць выбраным мае кожны чалавек, незалежна ад пола, котораму ня менш 24 г.

БЭРЛІН. Партыйнае бюро незалежных соцыял-дэмакратаў у Бэрліне зачынена паліцыяй і сэкрэтар яго арыштаваны. Арыштаваны таксама незалежны соцыяліст, рэдактар Дэнвіг.

БЭРЛІН (В.Т.Б). Новы рэйхсканцлер, кіраўнік соцыял-дэмакратаў Эбэрт, публікуе адозву да нямецкага народу, у каторай называе новы ўрад народным. Ен кліча ўсіх грамадзян бяз розьніцы партыі да злучнасьці, спакою і працы для дабра народу. Адозва канчаецца словамі: „я станоўка прашу ўсіх: выйдзеце з вуліц, руплцеся аб спакоі і парадку“.

БЭРЛІН. Быўшая ўрадовая «Nord. Deut. Alg. Ztg.» называецца цяпер «International». Яна друкуе адозву Работніцкай і Салдацкай Рады, у каторай, між іншым, кажацца: пачынаючы з 9 лістапада Нямеччына—соцыялістычная рэспубліка работнікаў і салдатоў. Мы цяпер працуем над арганізацыяй ураду, у каторым уся заканадаўчая, спаўняючая, адміністрацыйная і судовая ўлада ў руках прадстаўнікоў рад работнікаў і салдатоў.

БЭРЛІН. 10.XI. Нямецкая глаўная каманда прызнала аўторытэт работніцкіх і салдацкіх рад. У Гэссэндармштадце абвешчана рэспубліка. Так сама ў Вюртэмбэргу і Бадэне.

Быўшы „Lokal Anceiger“ выходзіць пад назовам „Чырвоны знак“ і ёсьць органам большэвікоў.

---

стаўнікі Рады пайшлі дамагацца ў мясцовай большэвіцкай рады, каторая дзяржала ўладу ў сваіх руках, сабе кватэры. Большэвікі, ня гледзячы на тое, што арганізацыям іншых нацыянальнасьцей, (як латышом, літвіном, паляком), былі дадзены кватэры, беларусам кватэры не далі, кажучы, што Беларускую Пскоўскую Раду яны яшчэ мала знаюць. Пасьля гэтага назначана было другое вялікае сабраньне. Апавешчаны былі ўсе вайсковыя часьці. Абвестку аб сабраньні было загадана прачытаць ува ўсіх ротах, эскадронах, камандах і батарэях. Сабраньне адбылося ў камэрцыйным банку. На сабраньні апрача спраў палітычных быў прачытаны рэфэрат аб гісторыі Беларусі і дэклямавалі вершы. Гэта ўнесла беларускі дух. Сабраньне было вельмі вялікзе. На ім Рада была папоўнена. Адзін спаўняючы камітэт Рады складаўся з 24 чалавек. Ня гледзячы на даволі вялікую лічбу спаўняючага камітэту ўсе яго сябры хадзілі на засяданьні акуратна. Ня было здарэньня, каб хто з сябраў камітэту ня прыйшоў на засяданьне. Рада паслала ў Пецярбург людзей па беларускую літэратуру. Адначасна з гэтым аб Пскоўскай Беларускай Радзе была надрукавана ў пецярбурскіх газэтах тэлеграма з Пскова. З тэлеграмы аб беларусах у Пскове даведаліся ў Вітэбску і запрасілі прадстаўнікоў Рады на вайсковы беларускі зьезд у Вітэбску. Дэлегатамі ад Пскоўскай Беларускай Рады на гэны зьезд паехалі К. Цэрэшчэнка і А. Судзілоўскі.

Рада ў Пскове дабівалася арганізацыі беларускага войска. Ваенных беларусаў злучалі ў адны палкі, батальёны і роты. Было патрэбавана, каб з вайсковых часьцей былі адпушчаны людзі, патрэбныя для працы ў Радзе і каб была захавана за ім пэнсыя. Дамаганьне гэтае было споўнена. Дастаўшы запросіны на Усебеларускі зьезд у Менск, Пск. Бел. Рада паслала сваймі дэлегатамі К. Цэрэшчэнку, П. Хмелеўскага і Хаценку. Як ведама, Усебеларускі зьезд быў разагнаны большэвікамі. Як дэлегаты Рады прыехалі з зьезду ў Менску, адных з іх арыштавалі большэвікі, другія ўцяклі. Пскоўская Беларуская Рада апрача арганізацыі ваенных, занялася арганізацыяй беларускіх чыгуннікаў, каторых вельмі шмат было на чынунцы ад Лугі да Дльвінска. Быў час, калі ўся чыгунка ад Лугі да Дзьвінска занята была аднымі беларусамі. Пск. Бел. Рада арганізавала яшчэ беларусаў ў Рэжыцы.

З працы Рады, трэба яшчэ адзначыць рэгістрацыю беларусаў, жывучых у Пскове і ваколіцах. Было абвешчана, што тыя беларусы, каторыя паддзержаваюць Раду, няхай рэгіструюцца. Зарэгістраванаму выдавалася пасьведчаньне і бралася па 3 руб. Плата за рэгістрацыю направіла грашавыя справы Рады. Аднэй з вялікшых перашкод у працы Рады было няўменьне інтэлігэнцыяй свае беларускае мовы. Зло гэтае вельмі шырокае ў нас і ўсюды чуецца вялікая яго шкода. Каб навучыцца роднай мовы пскоўскія беларусы проектавалі закласьці курсы для інтэлігэнцыі.

Беларускія сілы ў Пскове зьбіраліся з ваенных і чыгуньнікаў. З прыходам немцаў войска было расформована, чыгуньнікі дзеля хлеба мусілі выяжджаць у Большэвізію і беларуская работа пачала зьменшацца. Цяпер рэшта Пскоўскай Рады жджэ першай магчымасьці, каб вярнуцца ў Бацькаўшчыну. Есьць там беларусы Смаленскай, Магілёўскай, Менскай і Горадненскай губ., аднак для беларускай работы яны з ахвотай паехалі-б усе ў вадно месца. Нам здаецца, што зараз-жа павінен быць пасланы ад цэнтральнай беларускай установы ў Пскоў дэлегат, каб там пры помачы мясцовых беларускіх сіл наладзіць перавоз беларусаў - уцекачоў у Бацькаўшчыну. Аб гэтым трэба ўмовіцца з нямецкай камандай, каб ня было ніякіх перашкод. Рэшта пскоўскіх сьвядомых беларусаў, каторыя ня будуць працаваць пры перавозе ўцекачоў павінны быць вернены ў Бацькаўшчыну, каб даць ім там конкрэтную работу.

Гісторыя Пскоўскай Рады паказавае як жыцьцёвы беларускі рух і як часам патрэбна толькі аднае іскры, каб узьняўся сьвяты агонь нацыянальнага адраджэньня.

*І. Янучонак.*

---

# У Вільні і ваколіцах.

## Ад адміністрацыі.

„Гоман“ высылаецца толькі па заказу з месц. Дык куды прыходзіць экзэмпляраў „Гомана“ помала,—просім **на месцы**: у бэцырку, кнігарнях і г. п. дамагацца выпісаваць балей. Так сама куды „Гоман“ прыходзіць ня тымі літарамі, якімі хочуць, павінны аб гэтым заявіць у сябе на месцы.

**Лідэр беларускіх соцыялістаў-фэдэралістаў у Вільні.** Надовічы варочаючыся ў Менск, заехаўся у Вільню п. І. Варонка, лідэр фракцыі соцыялістаў-фэдэралістаў у Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. П. І. Варонка знаёміўся з беларускай працай у Вільні. Увечары 7 лістапада п. І. Варонка паехаў у Менск.

× **Старшыня Пскоўскай Беларускай Рады ў Вільні.** Надовічы ў рэдакцыі «Гомана» быў старшыня Пскоўскай Беларускай Рады, п. К. Цэрэшчэнка. П. К. Церашчэнка даў весткі аб беларускім жыцьці ў Пскове. Беларусы ў Пскове групуюцца каля Беларускай Рады. У Радзе ёсьць прадстаўнікі розных партый, але ўсе яны перш-на-перш беларусы. Пскоўскія беларусы дабіваюцца незалежнасьці Беларусі аднэй або разам з Літвой. «Я вельмі ўцешыўся, сказаў п. К. Цэрэшчэнка, як прачытаў у «Гомане» што і тут дамагаюцца Літоўска-Беларускага гасударства. Дзе мы, а гдзе вы і адно тое самае думаем. Фэдэрацыя з Маскоўшчынай небаспэчна, яны зробяць з усёй Беларусяй тое, што зрабілі ўжо з Смаленшчынай».

× **Выдавецтва Беларускага камітэту.** Новая кніжка **«Жніво і дажынкі»**, беларускія народныя песьні. З „Бел. Зборн.“ Э. Романова выбраў і ўлажыў да друку П. Станіч. У кніжку ўвайшлі жніўныя і дажынкавыя песьні блізу ўсіх беларускіх губэрняў. Песьні друкаваны ў «Гомане». Стр. 32, цана 40 фэн. Прадаюцца ў беларускіх кнігарнях: Вільня, Завальная № 7 і Менск, Захараўская № 8.

× У нядзелю 10-га лістапада па прыкладу іншых мест і ў нас утварылася Нямецкая Салдацкая Рада, каторая прызнана ваенным губэрнатарам Літвы. Салдацкая Ра-

---

*І. Сербаў.*

# Аб беларускай народнай песьні.

(Гл. „Гоман“ № 88).

* * *

Ляцеў-ляцеў горны птах,
Ляцеў-ляцеў чорненькі,
І з-пад цёмнага лесу
З-пад зялёнага гаю.
Як сеў сябе чорны птах,
Як сеў сабе чорненькі,
Ды на белай бярозе,
Ды на любым дзярэўцу.
Туды пашла ды ўдава,
Малодачка-малада,
Усё з маленькім рабяткам,
Ды на ручках з дзіцяткам.
— Ці ня бачыў, чорны птах,
Ці ня бачыў, чорненькі,
Ды майго нялюбога,
Усё таго пастылога?
Бачыў-бачыў, удоўка,
Бачыў-бачыў, малодка,
Усё з маленькім рабяткам,
Ды на ручках з дзіцяткам.
Ен па рэчачцы езьдзе,
Шчуку-рыбачку лове,
І з сяцей вытрасае,
Усё на бераг кідае.
Багдай яму так тошна,
Багдай яму так нудна,
Як без вады тэй рыбцы,
Ды як мне маладзіцы.
Багдай-жа ён так і ссох,
Багдай-жа ён так і зьвяў,
Як на печы лучынка,
Як на полі былінка!.. [1])

* * *

Вол бушуе,
Вясну чуе,
Воран крача,
Сыру хоча.
Дзеўка плача,
Замуж хоча!
— Ня бушуй, воле,
Пойдзеш у поле,
Да і ў полі наарэшся!
Ня плач, дзеўка,
Пойдзеш замуж,
Дай замужам нажывешся!
Наараўся,
Вол улёгся.
Воран крача,
Сыру зьеўшы.
Дзеўка плача,
Сына меўшы!.. [2])

У цэнтральнай і ўсходняй Беларусі на прасторы высокіх бароў і шырокіх палёў вясьнянка пяецца плаўна і вясёла, але на балотах Палесься яна чуваць уныла і смутна.

**Веснавы карагод.** Веснавы карагод характэрны сваёй жывасьцяй і калярытнась-

[1]) Таксама.

[2]) М. Жыцін.

ОРША. У кароткім часе між выхадам нямецкага войска і прыходам большэвіцкага быў зроблены пагром і рабунак.

ГОРАДНА. Двое невядомых жыдоў напалі 26 кастрычніка ля сынагогі сярадня на Моўшу Вігрыцкага, аглушылі яго ўдарам па галаве і абчысьцілі яму ўсе кішэні.

На ніжняй вул. № 24 знойдзена патайная гарбарня.

БЕЛАСТОК. Уначы з аўторка на сераду ў готэлі „Эуропэ“ зроблена забіўства. Адзін міліцыянт з Ваўкавыску наняў пакой на ноч і задушыў там бязульную дзяўчыну. У сераду нараніцы праступнік сам прышоў у крымінальную паліцыю і сказаў, што забіў у бяспамяцьці.

ВАУКАВЫСК. Міравы суд прысудзіў тутэйшае праваслаўнае Петрапаўлаўскае брацтва ў асобе Аляксандра Пауловіча аддаць б. жандарскаму унтэр-афіцэру, Ф. Даніку ў Біскупцах, пазычаныя ў яго 1914 г. 2.500 рублёў.

БЕЛЬСК. Злодзеі уламаліся ўначы ў магазын вобую і выцягнулі стуль вобую на 10 тысяч марак.

ЛАЦЫ. Злодзеі уламаліся тут у краму і выцягнулі стуль сукна і ботаў на 15 тысяч марак

СУПРАСЬЛЬ. Уначы на 2 лістапада праламаны хлеў і выведзена цельная карова.

БАРАНАВІЧЫ. У кастрычніку праз тутэйшы пункт беларускай уцякацкай камісіі вярнулася 4.025 беларусаў уцекачоў, у гэтай лічбе 1381 мужчына, 1052 кабеты і 1692 дзяцей.

КОУНА. Біскуп Карэвіч вярнуўся з візытацыі свае дыэцэзыі. Праз 4 месяцы ён быў у 78 касьцёлах.

ВІЛКАВІШКІ. Тут уладжана сушня садовіны. За гэты сэзон спадзяюцца высушыць каля 50 тысяч пудоў садовіны.

КОУНА. Тут ёсьць пяць літоўскіх газэт. На гэтых днёх пачынаюць выходзіць яшчэ дзьве новыя.

СЛУПЫ. Тут згарэла старaверская лазьня. Пад руінамі знайшлі труп невядомага мужчыны.

АУГУСТОУ. У тутэйшых ваколіцах знойдзены 2 лістапада труп гандляра лесам, Ізраэля Леварцінскага. Арыштаваны 4 чалавекі, у каторых знайшлі леварвэр і салдацкую стрэльбу з патронамі.

ПРОПАЛЯНКА, Радунскага п. Уначы ў прадапошнюю суботу банда разбойнікаў зьвязала тутэйшага сяляніна і яго сына, вывела з стадолы 3 кабылы і 2 жарабят і ўцякла з імі.

ОРЫВОН. Разбойнікі забілі тут двох чал.

ЯНІШКІ. Кара сьмерці над разбойнікам Марозавым, кіраўніком банды, і іншымі разбойнікамі споўнена. Іх расстралялі. Прад сьмерцяй Марозаў сказаў, што займаўся разбойніцтвам, каб сабраць матар'ялы на раман, каторы хацеў напісаць.

ГІБЫ. Юдэль Мар'янскі і яго брат Сімхэ паддзержавалі ў 1917 г. ў Горадне брован. Яны аштрафаваны у 10.000 і 3.000 марак.

## Украіна.

КІЕУ. У расейскім консульстве паліцыя трэсла і знайшла компромітуючы матар'ял. Знойдзены: снарады, аружжа і большэвіцкія кніжкі. Украінскі ўрад прадлажыў расейскаму консульству зараз-жа пакінуць Украіну.

ВЕНА. Газэты наказаваюць, што ўкраінскі нацыянальны ўрад усходняй Галіччыны даручыў глаўную каманду над украінскімі войскамі генэралу Бэм-Эрмолі, каторы згадзіўся на гэта.

## З Польшчы.

ВАРШАВА (В.Т.Б.). 10.XI. Генэрал-губэрнатар, Бэзэлер, наказаў польскай рэгенцыйнай радзе, што ўпраўленьне краем пераходзіць у польскія рукі 1-га сьнежня.

## Весткі з Расеі.

КОПЭНГАГА. Большэвіцкі ўрад арыштаваў усіх падданых чужых дзяржаў.

## З усяго сьвету.

ЦЮРЫХ. Усе француcкія соцыялістычныя газэты дамагаюцца з вялікай энэргіяй дэмонстрацыі інтэрнацыянала. Ува ўсіх часьцях Парыжа і ў важнейшых мястох провінцыі зьбіраюцца дзеля гэтага сабраньні. «Humanité» піша: «сусьветныя здарэньні апошняга часу могуць навуку соцыялізму з тэорыі абярнуць на практыку.

БЭРН. Спадзяюцца спыну зносін між урадам Швайцарыі і расейскім урадам рад. Расейскай большэвічцы, Балабанавай, прадложана выехаць.

ЖЭНЕВА. Гасударства абымаючае ўсе паўднёва-славянскія землі будзе называцца «Каралеўства кроатаў і славянскіх сэрбаў», а кароль будзе мець тытул караля сэрбаў, кроатаў і славенцаў.

БАЗЭЛЬ. На ваеннай конфэрэнцыі саюзьнікаў у Вэрсалі пастаноўлена з аружжам ходацца проціў большэвізма, дзе бы ён не паказаўся.

## Тэлеграмы.

### Нямецкія апавяшчэньні.

**8.XI. Заходні тэатр.**

На паўночна-ўсход ад Удэнарт французы ўзноў перашлі на ўсходні бераг Шэльды, але контратакай былі ўзноў адкінены за рэчку. Між Шэльдай і Маас мы вядзём далей нашыя рухі. Спробы непрыяцеляў перашкодзіць былі ўсюды няўдачны. На ўсход ад Маас мясцовыя бітвы ў лесе на заход ад Брантвіль.

**9.XI. Заходні тэатр.**

Часьць места Турнэ на заходнім беразе Шэльды мы пакінулі і занялі англічане. Між Шэльдай і Уаз і на заходнім беразе Маас мы вядзём далей нашыя рухі. На ўсходнім беразе Маас стычкі.

**10.XI. Заходні тэатр.**

БЭРЛІН (В.Т.Б). 10.XI. Між Шэльдай і Маас мы вялі далей свае рухі. На ўсходнім беразе Маас адкінены наступленьні амэрыканцаў.

### Каля вайны.

МЮНХЭН. Дзеля абароны паўднёвых граніц Нямеччыны ад банд б. аўстрыяцкіх салдатоў і падыходзячага з паўдня непрыяцеля баварскія войскі занялі часьць Тыроля і Сальцбурга, а саксонскае войска часьць паўночнай Чэхіі.

БУДАПЭШТ. Армія фэльдмаршалка Макензэна варочаецца з Балкан цераз Вэнгрыю ў Нямеччыну.

БУДАПЭШТ (В.Т.Б.). 9.XI. Саюзьнікі згадзіліся на замірэньне з Вэнгрыяй пад вельмі цяжкімі варункамі. Вэнгерскае войска пакідае ўсю Семіградзію, увесь Банат, зямлю між Драваю і Данаем, усю Кроацыю і Славонію. Чэхі занялі шмат вэнгерскіх мест.

## Пачтовая скрынка.

Просім усіх, хто знае адрасы беларусаў:

**Янкі** Купалы (Івана Луцэвіча),

**Якуба Коласа** (Константына Міцкевіча) і

**Агранома Рышкевіча**, прыслаць іх адрасы ў Рэдакцыю «Гомана».





Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман.» Рэдактар Язэп Салавей.